ЖАТВА-2001



*Николай Жабров из колхоза "Бель" Кричевского района — классный комбайнер. В прошлом году он намолотил около тысячи тонн зерна, рассчитывает, что нынче результат будет не хуже.*

*Вот никак он не поймет одного — почему люди работают до седьмого пота, а жизнь все хуже и хуже. Может, на этот вопрос ответят те, кто задумал строить в Беларуси "рыночный социализм"?*

**Фото Валерия БЫСОВА.**

АКЦИИ

## Но "зубры" не растерялись...

Люди в майках "Время выбирать!" появились днями в центре Борисова. Каждый житель города мог получить из их рук новый номер незарегистрированной газеты "Зубр". Затем акция по раздаче перенеслась на один из городских пляжей. Вновь "зубрам" решил помешать "усатый больной". В мотоциклетном шлеме в трусах и на лыжах он пошел по песку в направлении "зубров", ругаясь нецензурной бранью. Но "зубры" не растерялись, и град из красных зрелых помидоров полетел в усатого лыжника. Тот немедленно ретировался в реку.

Отдыхающие на пляже горожане получили незабываемые впечатления. А "зубры" продолжили свою работу.

Движение "Зубр" в Борисове хорошо известно, а "зубровская" литература пользуется популярностью. В течение двух дней было распространено свыше четырех тысяч экземпляров газет.

Не обошлось без репрессий. Так, 19 июня было задержано двое несовершеннолетних активистов "Зубра". В отделении борисовского ГОВД на них были составлены протоколы по 172 статье КоАП. Около 100 газет были изъяты, а сами "зубры" через три часа отпущены.

## Краснополье делает свой выбор

В Краснополье во время ночной молодежной дискотеки активисты незарегистрированного движения "Зубр" по всему городу расклеивали наклейки с надписью "Время выбирать!".

Во время акции потихоньку начали съезжаться патрульные машины РОВД. Милиционеры получили указание во что бы то ни стало найти активистов движения "Зубр". Милиция останавливала молодых людей с требованием показать содержимое пакетов и сумок.

Усилия милиции не увенчались успехом. По всему Краснополью появились надписи "Зубр" и "Время выбирать!".

**Алесь БЕРКУТ.**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

## Дапаможам маці Юрыя Захаранкі!

Многія чытачы нашай газеты ведаюць пра цяжкі лёс маці Юрыя Захаранкі — Ульяны Рыгораўны. "Народная воля" не раз пісала пра гэта. На мінулым тыдні маці зніклага апазіцыйнага палітыка была прысвечана цэлая паласа "Камсамольскай праўды".

Ульяне Захаранка зараз вельмі цяжка. Асабліва пасля апошніх публікацый пра "эскадроны смерці". На наступным тыдні карэспандэнт "Народнай волі" выязджае да Ульяны Рыгораўны ў Васілевічы.

Калі нехта з нашых чытачоў хоча дапамагчы добрай жанчыне — хто перадачай, хто сувенірам, хто — проста лістом з добрымі словамі, лістуйце, калі ласка, прыносьце ў рэдакцыю, тэлефануйце: **206-62-56.**

**Алесь СІЛІЧ.**

ПАЗІЦЫЯ

## "Мы самі павінны прыняць удзел у стварэнні годнай будучыні..."

Паважаная рэдакцыя! Прачытаўшы ліст чытача Г.Навасёлава "Страшно далека оппозиция от народа!.." і адказ А.Сіліча, я вырашыла даслаць вам свае меркаванні. Хочацца падзякаваць А.Сілічу за ягоную пазіцыю. Каб паболей было такіх, што "достали ноги из "политических тазиков", то і сітуацыя была б іншая. Шкада толькі, што многія сядзяць па хатах і чакаюць, калі якая-небудзь палітычная партыя паабяцае нешта такое, "чтобы всему народу понравилось", і не задумваецца пры гэтым, што абяцаць у нас усе мастакі, а вось што тычыцца спраў — з гэтым заўсёды праблема.

Сапраўды, як сцвярджае А.Сіліч, у асобныя перыяды гісторыі ўсе павінны ўзгадаць, што яны перш за ўсё грамадзяне сваёй краіны, і не чакаць палітычных шоу па тэлебачанні, як гэтага хацелася б сп. Навасёлаву, а прыняць актыўны ўдзел у стварэнні годнай будучыні. Зараз якраз гэткі перыяд у гісторыі нашай Бацькаўшчыны; як пяецца ў ваярскай песне, "не адседзецца нідзе". Даставайма ногі з тазікаў! Хопіць балбатаць! І хопіць чакаць, калі прыйдзе нехта, хто шмат чаго наабяцае. Лепей хай пакажа сябе ў справе — зараз самы прыдатны час.

Я раней таксама лічыла, што палітыка — гэта справа толькі для палітыкаў. Але ў нашых палітыкаў нешта ніяк не атрымлівалася наладзіць годнае жыццё, а мне вельмі не хацелася, каб і ў маіх дзяцей, і ў маіх унукаў было такое ж цяжкае жыццё, як у майго пакалення. Адразу пасля вайны думалася, што пройдзе час — і станем на ногі, зажывём добра. Час ішоў, а людскага жыцця мы так і не паспыталі. Гэта я зразумела, калі трапіла ў Германію ды пабачыла там, якім можа быць жыццё простага чалавека. Мая знаёмая Гізэла — таксама пенсіянерка, як і я. Жыве ў звычайным вясковым доме з чатырох паверхаў, на кожным паверсе — туалет і душ ці ванна. Першы паверх — гаспадарчы, на другім жыве Гізэла з мужам, трэці займае сям'я сына, а чацвёрты — для гасцей. Улічыўшы стан майго здароўя, Гізэла пасяліла мяне ў пакоі на сваім паверсе. Каб вы бачылі, як яна, сямідзесяцігадовая жанчына, водзіць аўтамабіль! Для мяне гэта было за дзіва, але там, у Германіі, гэта звычайная з'ява: кожны дарослы мае асабісты аўтамабіль. У Гізэлы — сваё аўто, у сына — сваё, у нявесткі — сваё. Якая беларуская вясковая сям'я можа пахваліцца асобным чатырохпавярховым домам (дарэчы, пабудаваным у крэдыт з выплатай крэдыту на працягу 99 гадоў!) і трыма аўтамабілямі? Калі я расказваю пра гэта, нашы людзі заўсёды кажуць мне, што гэта мы трапілі ў нейкую вельмі заможную сям'ю, але ж я на свае вочы бачыла, што так там жывуць усе! Нашаму чалавеку ў гэта нават паверыць цяжка, але такі шыкоўны дом маюць простыя людзі: сын Гізэлы — кровельшчык, нявестка — прадавец ва універсаме, працуе толькі па тры гадзіны ў дзень, астатні час прысвячае двам дзецям.

Параўнала я наша жыццё з тамашнім ды і пайшла ў Беларускі народны фронт "Адраджэньне". Сэрца крывёй абліваецца, калі разумееш, чаго мы не зрабілі для сябе, для сваіх унукаў. А памылкі трэба выпраўляць. Шкада толькі, што здароўя ўжо няма, але я раблю тое, што ў маіх сілах: праводжу гутаркі з людзьмі майго пакалення, якія часцей за ўсё не разбіраюцца ў тым, што адбываецца ў Беларусі. Наш народ вельмі даверлівы, і гэта проста бяда. Наслухаўшыся радыё, яны не хочуць верыць відавочнаму, і патрэбна не адна гадзіна, каб расплюшчыць ім вочы, зняць ружовыя акуляры.

Ды што казаць пра гаротных пенсіянераў, вунь яшчэ, відаць, не стары Г.Навасёлаў гатоў верыць пустым абяцанкам тых, хто рвецца да ўлады. Я ж заўсёды кажу сваім суразмоўцам: не верце тым, хто шмат абяцае, а ўважліва вывучайце праграму кандыдата. Галоўнае не тое, што збіраецца зрабіць кандыдат, а як ён будзе гэта рабіць. "Запушчу заводы, дам зарплату..." А якім шляхам? Калі шляхі не вызначаны, дык няма чаго і да ўлады лезці. Мы ўжо сытыя гэтымі лозунгамі, толькі не трэба паўтараць памылак.

Першы выбар народа яшчэ раз пацвердзіў агульнае правіла: першы блін комам. Якім будзе другі "блін", залежыць толькі ад нас саміх, і не трэба здымаць з сябе адказнасць пытаннем "А хто будзе лепшы?". Выбірайце лепшага! Толькі думайце, аналізуйце... Яшчэ некалькі слоў наконт народнага фронту. Вельмі здзівіла з'яўленне ў "НВ" артыкула Васіля Якавенкі "Ці будзе ў Беларусі створаны народны фронт?". Хіба сп.Якавенка не ведае, што народны фронт у Беларусі ёсць? Ці аўтару надта захацелася стварыць нейкую альтэрнатыву? Грамадскае аб'яднанне "Беларускі народны фронт "Адраджэньне" і Кансерватыўна-Хрысціянская партыя БНФ праводзяць вялікую працу па кансалідацыі грамадства дзеля абароны незалежнасці Бацькаўшчыны. Па-першае, вядзецца доўгатэрміновая акцыя па зборы подпісаў за незалежнасць нашай краіны і ў падтрымку Акта незалежнасці Беларусі, прынятага 29 ліпеня 2000 г. Усебеларускім з'ездам (далучайцеся, сп. Якавенка і ўсе іншыя, хто падтрымлівае ідэю незалежнасці Беларусі!). Падругое, вядзецца праца па фарміраванні грамадзянскай супольнасці пад агульнай назвай "Беларуская салідарнасць" з мэтай стварэння органаў самакіравання — Грамадзянскага парламенту Беларусі. Па-трэцяе, вядзецца шырокае інфармаванне грамадскасці пра небяспечнасць удзелу ў выбарчым фарсе. Можа, сп. Якавенка хацеў бы нешта дадаць, што яшчэ трэба зрабіць? Тут я адкажу словамі А.Сіліча: "Хопіць балбатаць! Зрабіце што-небудзь!".

**З павагай — Людміла КРАСОЎСКАЯ, пенсіянерка, сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ.**

ПУЛЬС

## У Віцебску адкрылася шакаладная фабрыка

У дні "Славянскага базару" ў Віцебску адкрылася новая шакаладная фабрыка "Вітэла". Яна спецыялізуецца на вытворчасці шакаладу, а таксама сухіх кандытарскіх сумесяў і глазуры, што выкарыстоўваюцца на многіх беларускіх халадзільных камбінатах пры вытворчасці марожанага.

Уладальнік фабрыкі — нямецкі канцэрн "Швартау", які інвеставаў у стварэнне новай вытворчасці каля 6,5 мільярда долараў ЗША. Фабрыка размясцілася на тэрыторыі СЭЗ "Віцебск" у карпусах былога радыётэхнічнага завода, выкупленага нямецкім інвестарам. Выпуск пробных партый сумесяў і напаўняльнікаў адбыўся яшчэ ў канцы сакавіка. Нядаўна пачата вытворчасць порыстага шакаладу "Аліса". Вытворцы гарантуюць выдатную якасць сваёй прадукцыі.

Плануецца, што асноўным рынкам збыту прадукцыі "Вітэлы" стане Расія, але штосьці дастанецца і беларускім аматарам салодкага.

**Вольга ПАЛОНСКАЯ.**

## "Мерседэсы" на вуліцах Магілёва

На маршрут выйшаў першы з дзевяці аўтобусаў "Мерседэс", закупленых у Германіі для магілёўскіх гарадскіх перавозак. Астатнія аўтобусы-"гармошкі" прыбудуць у абласны цэнтр, калі за іх будзе заплачана мытная пошліна ў памеры больш за 100 мільёнаў рублёў.

Усе набытыя аўтобусы не з'яўляюцца новымі, а ўжо праслужылі некалькі гадоў на нямецкіх дарогах. На думку спецыялістаў, перавага гэтых машын перад айчыннымі заключаецца ў эканамічнасці, большай умяшчальнасці і надзейнасці.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## У Мінску прайшоў рок-канцэрт, прысвечаны дню прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі

**Фота IREX/ProMedia.**

У Мінску, у парку Дружбы народаў, прайшоў рок-канцэрт, прысвечаны 11-й гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі.

Санкцыянаваная рок-акцыя пачалася а 17-ай гадзіне. Перад яе пачаткам супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ва ўдзельнікаў каля 3 тысяч лістовак з заклікам удзельнічаць у выбарах, а таксама каляндарыкі і спецыяльныя бюлетэні для апытання ўдзельнікаў канцэрта пра іх палітычныя сімпатыі. На пачатку канцэрта быў зачытаны зварот аднаго з патэнцыяльных кандыдатаў на пасаду прэзідэнта Беларусі Сямёна Домаша да яго ўдзельнікаў. Ён меў намер прыйсці на канцэрт, аднак вылецеў у Цюмень (Расія) для сустрэчы з беларускай дыяспарай. У звароце Домаша выказана ўпэўненасць, што ў бліжэйшыя гады беларускі рок заслужана стане вядомым і любімым у краінах Еўропы.

Затым выступіў лідэр "Маладога фронту" Павел Севярынец, які са шкадаваннем адзначыў, што прынятая 11 гадоў таму Дэкларацыя аб суверэнітэце "так і засталася дэкларацыяй". "Мы жывём у краіне, дзе цяжка дыхаць. Мы глядзім і слухаем расійскую "папсу" па тэлеканалах і, у рэшце рэшт, збіраемся на плошчы Бангалор, а не на плошчы Незалежнасці. Але ў нас ёсць шанс дабіцца рэальнай незалежнасці — гэта прэзідэнцкія выбары", — заявіў Севярынец. Ён заклікаў моладзь прыняць удзел у выбарах, а калі спатрэбіцца, выйсці на вуліцы і плошчы, каб адстаяць перамогу.

На канцэрце выступілі вядомыя беларускія рок-групы — "Крама", "Уліс", "НРМ", "Новае неба", "Зьніч" і іншыя. Паслухаць беларускі рок і патанцаваць у парку Дружбы народаў, нягледзячы на дождж, прыйшлі больш за тысячу чалавек. Над натоўпам лунали белчырвона-белыя сцягі і раскідваліся лістоўкі.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Урад не выконвае шэраг абавязацельстваў

Урад не выконвае шэраг абавязацельстваў, узятых на сябе ў рамках генеральнага пагаднення паміж урадам, прафсаюзамі і наймальнікамі. Да такой высновы прыйшло кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), абмеркаваўшы вынікі выканання генеральнага пагаднення ў першым паўгоддзі.

У якасці станоўчых фактараў у ФПБ зазначаюць, што ўрад распрацаваў і рэалізуе меры, скіраваныя на рэалізацыю прадугледжанага генпагадненнем абавязацельства па давядзенні зарплаты да ўзроўню 100 долараў ЗША. Павялічаны да 60 працэнтаў бюджэту пражытачнага мінімуму нарматыў індэксацыі даходаў насельніцтва ў сувязі з інфляцыяй.

Разам з тым ключавыя паказчыкі развіцця эканомікі і сацыяльнай сферы па-ранейшаму не забяспечваюцца. Гэта, у прыватнасці, тычыцца рэнтабельнасці вытворчасці, якая застаецца вельмі нізкай — 9,9 працэнта — і не забяспечвае нават простага ўзнаўлення. Высокім застаецца ўзровень дэбіторскай і крэдыторскай запазычанасці, зніжаецца плацежаздольнасць прадпрыемстваў. Па сутнасці, цэлыя галіны аказваюцца ў становішчы банкрутаў: доля стратных прадпрыемстваў па краіне ў першым паўгоддзі склала 38,2 працэнта.

У шэрагу галінаў народнай гаспадаркі і рэгіёнаў краіны не забяспечваецца своечасовасць і паўната выплаты заработнай платы. Тэмпы росту цэн перавышаюць прагнозныя паказчыкі — інфляцыя ў сярэднім складае каля 3,4 працэнта ў месяц. Не вырашаецца праблема беднасці: больш за 35 працэнтаў насельніцтва маюць даход на члена сям'і ніжэйшы за бюджэт пражытачнага мінімуму.

У сувязі з гэтым кіраўніцтва Федэрацыі прафсаюзаў рэкамендавала рэспубліканскім камітэтам, саветам і абласным аб'яднанням ФПБ разгледзець ход рэалізацыі галіновых і мясцовых пагадненняў, а таксама прыняць меры па забеспячэнні рэалізацыі прадугледжаных у іх абавязацельстваў. Пры гэтым асаблівую ўвагу трэба надаць узроўню аплаты працы, своечасовасці і паўнаце яе выплаты, стварэнню ўмоў для дзейнасці прафсаюзаў.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

ТЮРЕМНЫЕ УНИВЕРСИТЕТЫ

*Валерий ЩУКИН, правозащитник, БХК*

# Дневник политарестанта

*(Продолжение. Начало в №№ 133-136 за 2001 год)*

### Четверг, 21 июня, 10 день

Свои дневниковые записи готовлю к публикации, как правило, по ночам. Собственно, у меня и на свободе примерно такой же режим работы. С той лишь разницей, что там, на свободе, за день иногда так намотаешься, что вечером засыпаешь как убитый. Даже такая "суперувлекательная" программа как "Панарама" разбудить не в состоянии. В тюрьме же работы как таковой нет вообще, а душа и тело жаждут трудиться.

Прошедшей ночью слышу, как надзиратель говорит кому-то в коридоре, отвечая, по всей видимости, на вопрос обо мне: "Мемуары пишет". А ведь и в самом деле получаются мемуары.

Обратился к тюремной администрации с просьбой дать мне список претендентов на президентское кресло. В стране уже вовсю идет сбор подписей за выдвижение, а я даже не представляю всех, по фамилиям.

С огромным вниманием послушал на ОРТ Максима Соколова, который четко показал, что ожидает и белорусских и русских журналистов, если Лукашенко останется в капээсэсовском здании на Карла Маркса, 38.

И, судя по тому, что вчерашний Генпрокурор Олег Божелко вынужден уже сегодня скрываться в Москве, угроза Лукашенко **сделать после выборов выводы** воспринята как реальная. Что, что, а уж это предвыборное обещание данного претендента (седьмого по списку) выполнено будет. Портретная галерея **похищенных** политиков и журналистов, публикуемая на страницах "Народной воли", не только не уменьшится, а наоборот...

В подтверждение слов Лукашенко Белорусское телевидение уже демонстрировало портреты кандидатов в этот печальный мартиролог.

### Пятница, 22 июня, 11-й день

22 июня 1941 года для меня не только начало последней всероссийской войны прошлого столетия на территории Советского Союза, но и мое начало — день зачатия. Потому как родился я ровно девять месяцев спустя после этой даты.

Сегодняшняя дата примечательна и другим событием: исполняется пять лет моему младшему внуку Никите. Именно его имя и фамилию — Никита Пигуль — ставлю зачастую под своими публикациями. А другой мой псевдоним — Данила Халецкий — это Никитин прапрадед — мой дед по материнской линии — крестьянин Толочинского района Витебской области.

Увы, на первый свой юбилей внук останется без подарка от дедушки, которого по приказу злого "кощея" посадили в тюрьму. Фамилию этого "кощея" Никита знает. Как и то, что бессмертных "кощеев" не бывает. Правда, в силу своего возраста он еще не понимает, что и вечных правителей тоже быть не должно. Но это дело времени.

Наконец-то в моих руках список 22-х претендентов, чьи инициативные группы собирают подписи. Ксерокопию сообщения ЦИК передала мне Ирина Казимировна, исполняющая функции тюремного воспитателя.

Боюсь, что из всего арестантского состава полную информацию об инициативных группах получили только в 217 номере. Остальные зеки понятия не имеют. Подозреваю, что и подавляющая часть свободных избирателей также не имеет об этом представления. Публикации на эту тему и репортажи Белорусского телевидения — красноречивые основания для такого вывода.

### Суббота, 23 июня, 12-й день

Передача Юрия Козиятко, как обычно, дала тему для обсуждения на курсах "политликбеза".

В частности, заявление Лукашенко, что он очень дешево обходится налогоплательщикам. К примеру, роликовые коньки и прочий спортивный инвентарь, стоимостью в тысячи долларов, белорусскому правителю... дарят.

А ведь подобное заявление не сделает глава государства ни в одной цивилизованной стране мира. Все преподносимые им подарки, ценой выше стоимости безделушки, президенты сдают в специальный музей: они считаются собственностью государства, а не главы государства.

Иначе это взятка. Уголовный кодекс гласит: "Принятие должностным лицом материальных ценностей, предоставляемых ему исключительно в связи с занимаемым должностным положением, совершенное лицом, занимающим **ответственное положение,** наказывается лишением свободы на срок до 15 лет (часть 3 статьи 430 УК).

Президент Республики Беларусь — самое что ни на есть должностное лицо, занимающее ответственное положение (пункт 1, часть 5 статьи 4 УК).

И если Юрию Бандажевскому якобы за получение взятки назначили восемь лет лишения свободы, то сколько же светит за принятие подношений иностранных фирм в виде супердорогих роликовых коньков и прочего, и прочего?

Бывший генеральный прокурор России тоже должностное лицо, занимавшее ответственное положение, поплатился должностью не столько за сексуальные шалости в сауне, сколько за костюм, "подаренный" ему за "красивые глазки".

Анализирую список претендентов, собирающих подписи для участия в президентской гонке. Поскольку средства на избирательную кампанию выделяют лишь на 15 кандидатов, то максимум семь претендентов Лидия Ермошина просто обязана не зарегистрировать — иначе Центризбирком станет финансовым банкротом.

Пытаюсь вычислить: кого?

Холодный прием, оказанный нынешнему правителю в Москве, явно отразится на тех претендентах, которых в России встречают более радушно.

Я пока на здоровье не жалуюсь, а вот у одного коллеги по камере проблемы с поясницей, но медики почему-то в нашу камеру не заходят, хотя их голоса, свидетельствующие о медицинском обходе, в коридоре раздавались не единожды.

*(Продолжение следует.)*

ЧИТАТЕЛЬ — ГАЗЕТА

## Отчего это пахнет вокруг...

Пару лет назад в торце нашего 195 дома по ул.Ленина в Слуцке открылось кафе. А так как там туалета нет, то наши подъезды и двор с детской площадкой для посетителей кафе превратились в то самое "удобство"... Пьяные клиенты и днем и вечером иногда целым строем идут и гадят в подъездах и дворе.

Жить так просто невмоготу. За это время мы несколько раз обращались по этому поводу в Слуцкий горисполком, к новому депутату Палаты представителей Всеволоду Янчевскому и уж совсем недавно — в Администрацию самого А.Лукашенко. Тихо и глухо... Только еще пристроили к кафе летний павильон, и наши беды умножились.

Осталась последняя надежда на Вашу газету. Может, опубликуете, и какой-либо кандидат в президенты Республики Беларусь хотя бы пообещает помочь нам? И тогда жильцы дома, вполне вероятно, проголосуют за него.

**Жильцы дома №195 по ул.Ленина в г.Слуцке.**

ОТ РЕДАКЦИИ

### Им главное – плюхнуться в мягкое кресло

*Уважаемые слутчане, жильцы дома № 195 по ул.Ленина! Действительно, в неприглядной ситуации вы оказались. Жить среди такой загаженности врагу не пожелаешь.*

*Как и многие иные авторы подобных жалоб, после напрасных обращений в местные инстанции вы вынуждены стучаться в высокие кабинеты столицы. Дай, как говорится, Бог, чтобы они сочли возможным разобраться с бесстыдными забулдыгами из соседнего к вам питейного заведения. Однако, откровенно говоря, не их, высоких инстанций, это дело. И, конечно же, не дело президента, в том числе и будущего. Их дело — организовать и обеспечить в государстве такую систему, при которой местное начальство занималось бы своими непосредственными обязанностями — заботой о нуждах жителей города, района. В том числе — и вашей бедой.*

*Однако этого нет, ибо кадры, расставленные на местах той же Администрацией президента (куда вы обращались), не подотчетны народу и потому глухи к его голосу. Депутаты Палаты представителей, в частности, В.Янчевский, за которого осенью проголосовали ваши земляки, тоже далеки от народных нужд, хотя и обещали золотые горы. Тот же Сева Янчевский чего только не сулил вам минувшей осенью, и избиратели купились на его посулы. А теперь вот жалобы: глух к обращениям недавно "любимого" электората. А ведь и тогда было ясно, что это за "народный защитник": ему главное — плюхнуться в мягкое депутатское кресло. Кстати, об истинных намерениях и качествах некоторых тогдашних кандидатов в депутаты (в том числе и Янчевского), их методах ловли голосов избирателей писала и наша "Народная воля".*

*Увы, в Слуцке (и других местах) проголосовали так, как проголосовали. А теперь приходит отрезвление: кого выбрали? Сколько можно наступать на одни и те же грабли? Так, может, теперь, на предстоящих президентских выборах, стоит хорошенько подумать перед голосованием, чтобы потом вновь и вновь не задавать себе и другим горького вопроса: и отчего это пахнет вокруг, как в общественном туалете?*

## Прэм'ер-міністр Беларусі прызнаў правальнае становішча ў шэрагу галін эканомікі

Як паведамляе прэс-служба Лукашэнкі, кіраўнік урада прызнаў на прайшоўшай нарадзе правальнае становішча ў лёгкай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, на транспарце. Паводле яго слоў, у трэцім квартале гэтыя галіны павінны выправіць становішча і дабіцца рэалізацыі тавараў на рынку. Толькі няўмелай працай маркетынгавых служб можна растлумачыць і ўсё большыя запасы прадукцыі на складах. Ёсць, вядома, тут і недапрацоўкі ў цэнаўтварэнні, адзначыў прэм'ер, але прадукцыю трэба рэалізоўваць, таму што гэта абаротныя сродкі, так неабходныя прадпрыемствам.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ.**

ЗДАРЭННІ

## З работы не вярнуліся

З пачатку ліпеня ў Магілёўскай вобласці на вытворчасці загінула шэсць чалавек. Галоўнай прычынай стала парушэнне тэхнікі бяспекі.

Трое работнікаў (у Магілёве і Крычаве) загінулі ад паражэння электрычным токам. У Мсціславе пры разборцы старога будынка на рабочага абвалілася сцяна. У Асіповічах падчас працы прадольнарэзальнага станка загінуў рэзчык. У Крычаўскім раёне платформа абрушылася на 18-гадовага трактарыста, што рамантаваў пад'ёмнік трактарнага прычэпа.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

СИТУАЦИЯ

## Беларусь предлагает «помощь» Литве

**У человека, который более-менее разбирается в нынешней политической и экономической ситуации, заглавие этой статьи может вызвать недоумение. Казалось бы, чем охваченная общим кризисом Беларусь может помочь своей соседке?**

Несмотря на все проблемы, в Литве развивается демократия, растет валовой национальный продукт, а средняя месячная зарплата составила в прошлом году 272 доллара США. Эта страна с нетерпением ожидает приема в Европейский Союз и НАТО, причем перспектива такой интеграции весьма реальна. В связи с этим Литва вполне обоснованно ожидает помощи от объединенной Европы и Северо-Атлантического альянса и получает ее, правда, пока немного.

Здравомыслящие люди давно поняли, что колхозное сельское хозяйство крайне неэффективно. Еще до развала СССР один из белорусских руководителей говорил в узком кругу о том, что производительность труда американского фермера в 13 раз выше производительности советского колхозника. Колхозное сельское хозяйство всегда было и продолжает оставаться "сельской бесхозяйственностью", что явилось одной из причин развала СССР.

Однако есть еще одно преступное упущение колхозного начальства, малоизвестное широкой публике. Дело в том, что для защиты урожая от различных вредителей, сорняков используют химикаты, которые называют пестицидами. Все пестициды ядовиты не только для сельскохозяйственных вредителей, но также и для человека. Их можно использовать только строго следуя соответствующим инструкциям.

Так уж получилось, что на просторах бывшего СССР, в том числе и в Беларуси, скопились десятки и сотни тысяч тонн неиспользованных пестицидов. Почему колхозное начальство не пустило эти химикаты в дело вовремя и годами хранит такие излишки — отдельный вопрос. Сейчас важно то, что эта отрава лежит повсюду в старых полуразрушенных складах, часто в поврежденной таре, на которой выцвели, истерлись или оборвались этикетки. Поэтому очень трудно установить, с какими пестицидами приходится иметь дело. Срок годности хранящихся химикатов давно истек, однако их токсичность сохранилась или даже повысилась. Использовать по прямому назначению такие препараты уже нельзя, несмотря на то, что из-за бедности белорусские колхозы не в состоянии купить столь необходимые им новые пестициды. Остается постоянная угроза полного разрушения складов и тары, а затем поступления больших количеств ядовитых веществ в окружающую среду. После этого должно последовать массовое отравление людей, то есть своего рода второй Чернобыль. Впрочем, кое-где уже сейчас эта отрава понемножку просачивается и портит экологию. Такая проблема напоминает проблему ликвидации старых авиабомб, снарядов и других боеприпасов, все еще хранящихся в Беларуси в огромных количествах. Как и во многих других случаях, по поводу пестицидной отравы "памяркоўны" белорус молчит и терпит.

Независимая Литва получила от бывшего СССР такое же наследство. Подсчитано, что в этой небольшой стране до сих пор хранится около 4500 тонн старых пестицидов, оставшихся с коммунистических времен. На одного жителя их приходится 1,25 килограмма, то есть больше, чем нужно для того, чтобы отравить все население страны. Единственное, что смогли сделать литовцы за 10 лет государственной независимости, — это перенести старые пестициды из многочисленных мелких, полуразрушенных складов в несколько более крупные, лучше оборудованные и охраняемые. Для того чтобы ликвидировать ядохимикаты, пробовали распылять их с самолета над лесными массивами с таким расчетом, чтобы на гектар приходилось очень мало препарата. Предполагали, что в таких дозах на единицу площади ядохимикаты не повредят ни людям, ни растениям и быстро разрушатся под воздействием почвенных микроорганизмов. Пробовали сжигать пестициды в огромных печах для производства цемента. Такие попытки не увенчались успехом, поскольку возникли новые проблемы, а с ними — многочисленные протесты со стороны населения. Как известно, Литва относится к тем странам, где власти пытаются исполнять волю народа, так как боятся потерять голоса избирателей на будущих выборах. Боятся они также независимых судей, прокуроров, инспекторов-экологов и журналистов. Некоторое время назад шли переговоры с Россией, которая собиралась вывезти старые литовские пестициды на свою территорию, разумеется, не бесплатно. Сделка, однако, не состоялась.

Вслед за "старшим братом" забрать себе неиспользуемые литовские пестициды предложила Беларусь приблизительно за 2 миллиона долларов. Еще несколько лет назад проворачивать такой "бизнес" на Беларуси было трудно. Дело в том, что для ввоза в страну ядовитых отходов должен быть принят специальный закон. "Пропустить" такой закон через Верховный Совет, где в то время заседала малочисленная, но активная оппозиция, было практически невозможно. Нынче можно не сомневаться, что если сверху будет соответствующее указание, белорусская "палатка" проголосует не только за ввоз ядохимикатов, но согласится даже сама их распылять по всей стране.

Пока шли переговоры, у белорусов появились сильные конкуренты в лице бельгийских и голландских специалистов. Они предложили самые современные технологии уничтожения ядохимикатов без ущерба для окружающей среды. Оплатить их работу обещает руководство Европейского Союза, в бюджете которого на защиту окружающей среды предусмотрены большие финансовые средства. Такое предложение отнюдь не является чистой благотворительностью. Дело в том, что Литва расположена слишком близко от Германии и других стран — членов Европейского Союза, которые вносят свои деньги в казну этой организации. Западноевропейцы очень заботятся о своем здоровье и не хотят подвергать себя риску отравления в том случае, если пестицидами будет загрязнена соседняя Литва.

Скорее всего, Литва предпочтет "европейский" вариант. Остается пожалеть, что Беларусь не может черпать из того же финансового источника, которым пользуется ее соседка. Это особенно досадно, если учесть, что географически обе страны практически одинаково удалены от Европы. Политически же Беларусь удалена от Старого Света на такое же расстояние, как Сибирь или страны Средней Азии. По крайней мере пока.

**Анатолий ГЕРМАНОВИЧ, собственный корреспондент "Народной воли" в Каунасе.**

